БІБЛІЯТЭКА
Беларускага літаратурнага аб'яднання
"БЕЛАВЕЖА"

---

Серыя заснавана ў 1990 годзе

**Кніга сто трэцяя**

Рэдактар
*Галіна Тварановіч*

Тэхнічны рэдактар
*Павел Бельскі*

Праект вокладкі
*Адам Баена*

Выдадзена за кошт сродкаў
Культурнага цэнтра Беларусі
пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь
у Рэспубліцы Польшча

© Copyright by Jerzy Bajena, 2016

ISBN 978-83-7657-205-5

**Nr 103**



Mariusz Śliwowski,
ul. Kolejowa 19, 15-701 Białystok
tel. 602 766 304, 881 766 304,
e-mail: prymat@biasoft.net, www.prymat.biasoft.net

## НІТКІ БУДУЧЫНІ

З васьмі нітак выткана будучыня.
Сем нітак – сем красак радугі:
чырвоная – гэта мужнасць і павага,
аранжавая – цёплая, як дабрата,
жоўтая – светлая, як сонца,
зялёная – зямны шлях жыцця,
сіняя – быццам высь нябесная,
цёмна-сіняя – сімвал свабоды і незалежнасці,
фіялетавая – знак далікатнасці і элегантнасці.

Восьмая нітка – нябачная, неўявімая.
Яна – прывабная тайна
яшчэ непрысутнага,
яшчэ ненароджанага.

З веку ў век,
ад надзеі да надзеі
вядзе пакаленне за пакаленнем
ніць тая,
жывая.

# ВЯЛІКІ ДЗЯКУЙ ТАБЕ, ЖЫЦЦЁ

Вялікі дзякуй табе, жыццё,
за шыр палёў,
за шапатлівыя словы васількоў,
за жнівень поўны каласоў,
за лесу сіні далягляд,
за ціхі ноччу зарапад,
за лівень светлай дабраты,
за ўзмах птушыных крыл.

Вялікі дзякуй табе, жыццё,
за бляск красы,
за смак слязы,
за кожны ўздым душы...

Плыве, плыве ад ясных хмар
любові сонечны рыдван.
На ўсіх зямных дарогах
знікае боль, адчай, трывога.

У краю мілым, дарагім
нікому хай не гаснуць дні.
Спяшацца трэба нам, сябры,
рабіць дабро...

* * *

Над скрыжаваннямі айчынных дарог
зялёнай душы ключом
адчыняю неба паэзіі.
У веснавую рань з сінявы нябёс
струменіцца шчодра сонечны дождж.
Пад белымі крыламі хмар
нараджаюцца першыя несмяротнікі-вершы.
Словы найпрыгажэйшай мовы –
ціхія, як сон, гулкія, як царкоўны звон.
Натхнёны малітвай-сяўбой
вуліцай зямной і нябеснай
уваходжу ў чароўны палон …

Ноччу зарапад.
Маланкі крэсляць далягляд.
Гляджу на нябачнае, чую неадчутае.
Жыву ў імперыі хараства,
у манастыры святла –
на восьмым кантыненце свету.

* * *

У светлай краіне
перасыпаю сонечны пясок –
з бяскраю ў бяскрай,
з нябыту ў нябыт,
з бяссмерця ў несмяротнасць.

Вочы, ногі і рукі
прывыклі ўжо да пяску.
Залаты дыван
мне кладзецца
на душу...

У спякоту пустыня
камянямі грукоча,
халоднай ноччу
зубамі скрыгоча...

Каб сніліся сны,
іду на скалісты абрыў.
Там стаю і гляджу,
як за сёмым далягядам
скрозь сінеюць
мае васількі.

* * *

Грукоча далёкі свет.
На небасхіле дрыжыць зарыва.
У жорнах мелюцца дні.

На шорсткім дне маўчання
ніхто са мной не вітаецца.
Рэха не адзываецца.

Ноччу не сплю.
У поцемку шукаю рукапісы,
недапісаныя лісты памяці.

Сэрцам да муроў дакранаюся.
Да руін зямлі каменнай.
Я – сын гэтага краю.
Я – лёсу абраннік.

На мове пакаленняў
Да цябе малюся, роднае.

Старонка беларуская,
табе прысягаю на вернасць!

* * *

Край мой — крык дзікай ружы.
Спадчына — боль майго сэрца.
Цёмная рака
з пакалення ў пакаленне плыве.
Выбірае пясок з-пад ног,
падмывае бераг.
Час правальваецца,
закрывае брамы будучыні.
А лес-маладняк
падыходзіць да парога.
Святое і мудрае – ціхае,
схаванае, прыніжанае.
Адзінота.
Лёс такі?..
Адкідаю камяні
з мінулых гадоў.
Сярод руін
шукаю жывых і мёртвых,
збіраю абломкі памяці.
Праз імглу
вобмацкам іду
да роднага дому.
Ружа, ружа,
будзь святлом
у цёмных калідорах дзён.

Край мой — крык дзікай ружы.
Спадчына — боль майго сэрца.

* * *

Каралева-Маці, зямная і нябесная,
сінявокая, яснавалосая і белакрылая,
абарані мяне, абнімі, да сэрца прытулі,
затрымай ля сябе – назаўжды.
Доўгія гады мне тваёй не хапала
дабрыні, святла і блакіту.
Устань, падыміся з нябыту.
Доўгачаканая, па слядах  дзядоў
і прадзедаў прыйдзі і вясной
аднаві дарагое аблічча
ўсёй роднай зямлі.

## СПЫНІСЯ, ВЯСНА-ХАРАШУХА

Вясёлка лунае над краем –
Вялікая радасць у нас.
Усё зіхаціць ды мільгае –
Дарогамі крочыць вясна.

Птушыныя песні не моўкнуць,
У белым адзенні сады.
Шырока адкрытыя вокны,
Зялёнае квецце душы.

Як добра, як шчасна тут жыць,
Дзе сонца ўзыходзіць з любві.
Маладосць, ты трывай, не бяжы,
Калі свет прыгожы такі.

Званочкі нам звоняць над лугам.
У жыце сарвем васількі.
Спынíся, вясна-харашуха,
Ажно спляцем ўсе вянкі.

## УЛАДАРКА КАХАННЯ

Да цябе я ішоў нацянькі
каляінамі непраходных дарог,
праз завеі і найглыбейшыя снягі.
Да цябе я ішоў нацянькі...

Цёмнай ноччу ізноў
не бярэ мяне сон.
Па бляшаных дахах
краплісты дождж барабаніць.
Вецер тузае кроны дрэў,
ламае саломінкі траў.
Усімі колерамі памяці
твой малюю я твар.

Зранку ў цішы лясной
звоняць галоўкі ландышаў.
У венах пульсуе кроў.
Цвітуць пацалункі з мінулых гадоў,
адзываецца слова "кахаю".

За зялёнай гарой,
за сіняй ракой,
пад ясным небам дазволь
сустрэць цябе яшчэ раз –

уладарка кахання,
царыца майго раю!

## ЛЕТА Ў МОКРЫМ

Шлях сюды адкрыты
і неадкрыты.
Гасцінец у цёплым блакіце.

У ранняй просіні ліпа.
І родны дом
пад чорна-белым
буслiным крылом.

Вось і ўся
імперыя ціхая
ў акіяне хараства.

Дзверы і вокны
расчынены насцеж.

На падваконніку
зялёны расце верш...

* * *

Золатам і чырванню
расчыняю дзверы восені.

Рабіну, ясень і клён
бяру ў агнявы палон.

Ад раніцы імглістай
да ночы зарыстай
сцежкі засыпаю лісцем.

Бабінае лета праду
серабрыстай ніткай.

Да вышыні малюся,
да найвышэйшай.

Вырай адкрываю –
вершам.

* * *

Старасць мая – радасць мая.
На хвалях жыцця
ўсё яшчэ рунее душа.
На ўлонні зямлі
і на крылах аблачын
маладзее шчасце –
чыстае яно, квяцістае.
У золкай просіні –
харaство царыцы восені.
Жоўта-чырвоны лістапад.
Аксамітны начны зарапад.
Празрыстая высь, вольная даль.
Нястрымная музыка і ... жаль.

* * *

*В.*

На твары тваім адбілася
святло восені.
У песні ціхай,
вялікай, шчырай
адазваўся вырай.
На вейках
усё яшчэ іскрацца
кропелькі дажджу...

Мадонна радасці і смутку,
трывай так,
не прамінай, як цень.
Мы – дзве вечнасці,
якія сышліся
ў адзін найпрыгажэйшы наш дзень.

# РАБІНЗОН

Рабінзон Круза астаўся сам-насам
у апусцелай вёсцы,
як на востраве.
Дом яго – сцены чатырох вятроў
і крыжы вакон.
Прамінулае ў памяці шасціць трысцём.
Каля саду, цяжкога ад яблык,
гарыць каліна, дрыгаціць асіна.
Сохне ўжо лісце слоў.
Верная мова нямовы –
спрадвечная прыстань.
Дываны саматканыя,
ручнікі вышываныя –
вясёлкавы краявід
і райскія птахі шчасця.

Рабінзон на родным, сваім.
Яму ўсё яшчэ лёс
дорыць і хлеб, і соль.
Кожны дзень у жыцці –
нібы скачок з шастом
па-над туманнай ракою
і глыбокай, бы акіян, цішай.

* * *

Ой, каб дыхнуць трошкі глыбей.
Ой, каб думкамі агарнуць шырэй,
далей, паўкроку наперад… –
Баішся…

Не, ты не  зазірнеш
за абмежаваны свой далягляд,
як за мур высачэзны.
Ты ніколі ў жыцці
з каленяў не ўстанеш… –

Каб не зварухнуць
на маўчанні збудаваную,
наймагутнейшую
піраміду страху.

* * *

Ад сухіх стэпаў бяссонніцы
ноччу прыходзіць смутак.
Замкнёныя на ключ,
прачынаюцца словы.
Ніводзін камень
каменю не ўсміхнецца.
Думкі дакранаюцца
да гарачых астравоў болю.
Калышуцца рэзкія травы жалю…

Стогне навала
над чорным борам.
Агонь разарваў ужо цемру.

Падняўся акіян –
пад горла.

## ЗАВЕЯ

На вуліцы Чырвоных кастроў
каркаюць вароны.
На вуліцы Чатырох вятроў –
дывізіі гулкіх слоў.
На плошчы Надзеі –
снежныя траншэі.

У чыстым полі –
бел-белыя сцягі.
Крыжовыя шэсці
чужых на чужых,
сваіх на сваіх.

Змяркае.
У пурзе стаяць
батарэі таемных гармат…
Свету ўжо не відаць.
У акіяне ночы
ніяк не разгадаеш:
хто вораг,
а хто брат.

## ГАЛУБЫ

Як цені няспоўненых мараў,
прылятаюць да мяне галубы.
Апусціўшы крылы,
дакранаюцца да зямлі.

На ратунак спяшаю – кармлю.
Не спазнаўшы больш голаду, холаду,
хай са мною жывуць.

– Непрысутныя мары-галубы, дзе вы?
– У воку цыклону… тут мы!

* * *

Дабрата не вяртаецца...
Трапіла яна ў аблогу зла.
У свет з жалеза і шкла.
Мова-трава.
Мутная вада. Падман.
Чорнае – гэта белае,
а белае – гэта чорнае.
Міражы.
Заклік да маршу – у нікуды.
Справядлівасць? Яе няма.
Велічная толькі сцяна.
Закратаваная душа
і замкнёныя высі.
Царства нябёс
ужо ні на зямлі,
ні знутры нас.

* * *

У анталогіях сучаснай паэзіі
укараніўся
і разрастаецца песімізм.
Нябачна, быццам чума,
паўсюдна шырыцца нігілізм.

Свет змяніў свой твар.
Ён сёння са сталі,
бетону і шкла.

Падняўся акіян...

Найгаласней крычаць
Словы-пігмеі.
Ніка высокіх барыкад –
на дне завеі.

Патэтычныя,
Велічна-прыгожыя сцены.
Вечная трава.
Заўжды яна
ў абдымках шчасця
і надзеі.

* * *

Ніхто за намі не ідзе…

Поўны жалю,
плыве наш каўчэг –
сярод апусцелых слоў,
твараў без імён,
вачэй халодных,
як паверхня лёду.

За блакітнай ракой,
за сёмай гарой,
за каскадам дзён –
пара развітанняў перад сном –
у светлых алеях
апаўшага лісця.

* * *

Са шматлікіх газет
адзічэлы крычыць свет…

Канчаецца лістапад.
З поўначы ідзе снегапад.
Сны, вакол жоўты пясок…
На шчырасць душы – лёд.
Горка смакуе соль слёз.
Вярба-ўдава ломіць рукі.
Надзея з далёкіх дарог
рэхам не адгукаецца…

Малюся да святых,
да сонца, зямлі, карэння.
Праз пустыні агонь нясу
адзінокае сэрца.
У ім ад усякага зла
замкнуў я на ключ
найдаражэйшы скарб –
малую сваю Беларусь!

* * *

У бліках захаду – мана
струёй шырокаю бруіцца.
Туман, срэбраны туман
над белым светам.
Прападае пчала, сціхае трава,
гінуць паэты.
Дыктат любові, дабраты.
Галадамор не для адной душы.
Дама ў скуры – гэта вуж.
У скураной куртцы – вужаў муж.
Фальшывы звон.
Дагары нагамі дом –
ён без вакон.
Серпантыны, бурбалкі,
расчыненыя дзверы…
Дно завеі.
Мора мёртвае –
надзеі?

* * *

На ўзбочынах дарог,
на паплавах жыцця-быцця,
на аблогах тутэйшых спраў
па волі лёсу спыніўся час.

Дзе ні глянеш, восені стракатасць.
Балота, макрыца-трава.
У чортавым логаве – сухастой і дрыгва.

Мутная вада, пакінутая зямля …

Нехта над хатамі белымі кратамі
закрыў неба!

* * *

Несмяротныя Рамэа і Юлія,
Дон Кіхот, Фаўст,
як жывеце,
як шчасліўіцца вам?
Звычайна?
Усё нармальна?
Пытаеце пра нашае жыццё-быццё
ды тутэйшы тэатр?
Ну вось, сыгралі мы сёння
трыста шэсцьдзесят пяты акт
барацьбы за косць.

* * *

На правінцыі блакады, бар'еры,
але й бываюць цікавыя кар'еры.
Захапленне зацьменнем,
гарачае вуголле і каменне.

Калючае святло рэфлектараў,
шаўковыя травы дырэктараў.

Тыя, што на парадзе гулкім,
пляскаюць у лапкі,
дзьмухаюць у трубкі...

Прыклееныя ўсмешкі, свет у казцы...
Можа, народ мой у масцы?

# ПАЭТ

Жыццё прынізіла яго.
З шырока адкрытымі вачыма
і бледным тварам
ён амаль пры зямлі.
Грамада назіральнікаў-інфарматараў,
фотарэпарцёраў-аматараў
і штатных гладыятараў
збіраецца вакол спадзяванага
месца катастрофы.
Натоўп маланкава павялічваецца.
Службы ўтрымання парадку
непрыкметна ўваходзяць
у гушчар фэсту …

Паэт раптоўна ўстае.
Пад пільным наглядам звяроў
ідзе па ясных хмарах.

* * *

Агнявая нянавісць
малых правінцыяльных інквізітараў
асудзіла паэта на забыццё.

Палітыканы-камісары,
бязлітасныя жандары
зачынілі ўсе брамы,
чорнай маззю замалявалі вокны,
забілі дзверы цвікамі.

Мур-ціша.
Шаўковыя травы калышуцца.

Закратаванае сонца і песня.
Слова несмяротнае –
Яно ў граніце верша!

## ЗМАГАР

Сам-насам з арміяй слоў
змагар-паэт на вайне,
на якой не льецца кроў,
але, як на моры, бушуе шквал ліхі.
Не кланяецца злу.
Вачыма зялёнай душы
прытуляе свет да грудзей сваіх.
Множыць дабрыню, злучае берагі,
ад здрады і дрыгвы
няспынна сцеражэ народ.
Каб ускрыліць дух,
праз поле міннае нясе
агонь святы.
З нябесных і зямных ён слоў
праменны тчэ кілім –
веры,
надзеі
і любові …

* * *

Паэзія – жменька матчыных слоў
у дні пагарды і здрады.
Словы-зерні пахнуць жнівом,
гамоняць цыкады...

Спяваць? Спяваю.
Вачыма роднае бачу.
З вераю праз жыццё іду.
Калі падаю, не крычу і не плачу.

Здавацца? Не такая пара,
бо – зямля, айчына, калыска...
Мне тут мілыя быллё і трава,
дарагое шамаценне лісця.

* * *

Кожная рана –
мая перамога,
паказальнік дарог,
паратунак ад злога...

Кожны шрам –
радок верша...

Мой твар запісаны кірыліцай.

* * *

На паліцы, як прачытаныя кнігі,
укладаю ўспаміны –
адзін побач другога.
Гладкімі думкамі
звілістыя выпростваю дарогі,
раўняю душы маршчыны,
шліфую камяні лёсу.

Раны даўно старанна схаваныя,
слёзы – высушаныя.

Шалясціць святло
і жоўтае лісце слоў.

Мой ангел дабра
на другім баку хмар.

Адпачывае ўжо –
у ценю крыку.

* * *

У гісторыі чалавецтва
свет быў зялёны,
жоўты, чырвоны,
чорны, белы,
нярэдка шэры.
Або буры.

Сучаснага свету
раскрытая кніга...
Колер яе – індыга.

* * *

Тым, хто шукаў дом у далонях
і акіян у кропельцы дажджу,
адчыніліся дзверы –
ў бясконцасць…

* * *

Вачыма зялёнай душы
ўдаль бягу.
Найвышэй падымаюся,
калі на каленях стаю...

* * *

Чалавечнасць
пачынаецца тады,
калі крышынку хлеба
падымаеш з зямлі.

# СВЯТЛІЦА СВЯТЛА

Святло святла –
прыдарожная пахіленая вярба.

*

Найважнейшая прэмія жыцця –
боль існавання.

*

Наймагутнейшая крэпасць –
сэрца чалавека.

*

Два брыльянты ночы –
дзявочыя вочы.

*

Пераможная сіла –
любоў, мілая.

*

Дар Неба –
луста надзённага хлеба.

*

Самы вялікі сэнс –
жыць у імя людзей.

* * *

Падарыў мне дзень
некалькі слязінак.

Душа прачнулася.
Пад вечар сонца ўсміхнулася.
Шчырыя кроплі
паплылі ручайком …

* * *

З простых і добрых слоў
хочацца будаваць свет.
У роснай красе –
шырокі прасцяг для дум і мараў.
Зямля ружакветная,
на ёй узыйдзе шчасце.
Ясныя ўсмешкі сонца
ахінаюць ужо неба...

У небе рай – для абраных.

* * *

Лістапад на двары.
У чырвані зарніц
у хмарнай вышыні
вырастаюць волаты-муры.
Сівы дым, горкі жаль,
развітальны баль лісця.
Пялёсткі слоў, каралі слёз,
густое покрыва тумана.

Бездараж дарог.

Праз цемру,
праз камень, праз жвір,
праз святло магіл
чуваць званы –

Гукі цішыні.
Споведзь сэрца і душы.

* * *

Паміж Усходам і Захадам,
тут, на памежжы,
дзе буры, ліўні і завеі,
усімі сіламі душы
трымаць нам трэба
цяжар надзеі.

* * *

У маскарадзе дня,
у лабірынце жыцця,
у звілінах часу слухаю цішу.

Для душы яна,
нібы гаючы бальзам,
нібы срэбра-золата.

Сэрцам слухаю...
Нямнога мне трэба.
Найпрыгажэйшая мелодыя –
цішыня неба!

* * *

У варотах стаіць ноч.
Зіхотліва свеціць месяц-маладзік.
Арктычная навагодняя цішыня.

На стале аловак
і чысты, як снег,  лісток паперы.
У памяці гусцеюць
чорна-белыя шкілеты думак.

Без слоў гавару з сабой,
з раднёй, з сябрамі й незнаёмымі,
з прамінулым і заўтрашнім.

На працягласць рук у паўсне –
Еўропа-Амерыка.
З-за фіранкі
выглядае начны прышэлец –
верш …

# НА ПАНАДВОРКУ

Шырока адчыніліся вароты Падляшша.
Ужо зранку на вясковым панадворку
свойскія пачалі гаворкі
конікі, кароўкі,
гускі, качкі,
пеўнікі і парасяткі.

Сабачанятка ля лаўкі
гаўкае на хмарку:
чаму яна плыве
ў забароненым напрамку?

На грушы, высока-высока,
сакоча сарока …
Завітала адна пані,
чорна-белая – з Беластока!

* * *

У краіне маўклівага камення
вучуся гаварыць “я”.
Быццам замову,
шапчу словы вернасці.
Пішу,
каб з траў і забыцця
узняць вочы.
Мой унутраны голас –
гэта крык белых сцен
на лініі жыцця
і нябыту.

* * *

Шукайце мяне ў выраі.
У снах нявысненых.
Пасярод свежай раллі.
На сінім беразе ракі.
У настальгічных шэсцях
траў і лісця.
У першым крыку верша.
У цішы
і ў песнях –

Там б’ецца
маё сэрца.

* * *

Іду да вас,
чуеце!
Іду ад сонца
светлымі праменнямі.
Іду да вас
з веснавым подыхам,
са спевам птушак.
Адчыняйце дзверы,
адкрывайце вокны.
Святло няхай
увойдзе ў цемру,
дабрыня ў сэрцы.
Неба няхай
раскалыша звон
надзеі.

# ІДЗЁМ ПА ШЧАСЦЕ

Даўным-даўно, спакон веку
ідзём па шчасце.

Дарогамі і бездарожжам
ідзём ажывіць мары.

Упаўшы, падымаемся,
каб не згаснуць.

Схіленыя над калыскай,
будучыню чакаем.

Наш сцяг – надзея,
што ў памяці трывае.

Яна на белым палатне
з бяссмерця вышытая …

## ПРЫЙДЗЕ МАЯ ВЯСНА

Яшчэ прыйдзе мая вясна,
найпрыгажэйшая з прыгажунь,
вястунка шчасця і святла.
Наблізіцца сэрца да сэрца,
а да душы душа.

Вясна і я пабяжым басанож
да васільковых палёў і сярэбраных рос.
Туды, дзе ціша, глыбокая, як збан,
дзе бессмяротнасці курган,
і народзіцца ўнутры нас
царства нябёс.

На квяцістых лугах,
вянкі звіваючы,
(букеты складаючы,)
разам мы вып'ем, да самага дна,
таемны келіх, поўны віна...

## БААБАБ

А калі ўжо будзе трэба,
баабам я стануся.
Зберагу глыбока пад карою
тысячагоддзяў памяць,
захаваю сэрца і карэнні
і дажджавой парою
сваім векавечным  лістам
вітаць я буду адраджэнне.

## БЕЛАРУСАМ

Давайце, суайчыннікі-сябры,
адкінем хмурнасць, ветраломы,
шэрасць дзён пакрыем квеццем
і з мудрасцю людзей свядомых
выйдзем на шлях са сцежак вузкіх,
а над зямлёй сардэчнай, роднай
на вышыню паднімем годна
спеў харавы наш беларускі!

* * *

У карагодзе непаўторных дзён,
на прасторах цемры і святла
мы – паэты-„белавежцы” –
шукаем гармонію жыцця,
каб маліцца ў ціхім храме характва,
тварыць у беларускім слове.

Думкамі знітаваныя з роднай зямлёй,
у вачах нясём трапяткія крылы вершаў.

Любым краем ідзём.
Або, як дзеці, пад сонцам вясны
басанож бяжым,
страсаючы кропелькі расы …

Маці-Айчына, прытулі нас  усіх
да грудзей сваіх,
да сэрца!

## СЛОВА

Слова – вочы зялёнай душы.
Нашае, маё, тваё, першае, тутэйшае, беларускае,
роднае, кроўнае, славянскае.
Шматгалосы хор на зямлі і ў паднябессі.

Слова ласкавае, пяшчотнае, праўдзівае, мудрае,
велічна-прыгожае.
Слова – адкрытая кніга жыцця.
Слова крынічнае, азёрнае, роснае,
крышталёва-чыстае, празрыстае, іскрыстае, зорнае.
Слова жытнёвае, пшанічнае,  васільковае,
рамонкавае, медунічнае.
Слова ціхалістае, шапатлівае, дуброўнае,
жывічнае, сасновае, рабінавае, калінавае.
Слова жаваранкавае, жураўлінае, буслінае,
салаўінае, вераб'інае, галубінае.
Слова малітоўнае, цудадзейнае, святое, вечнае.
Слова веры, надзеі, любові.

Абжыты, утульны дом.
Белай вежы срэбны звон.
Слова моцнае, як сталь,
цвёрдае, як дыямент і як граніт.

Слова, кірыліцай пісанае, чорным па беламу.
Ад Маці і Бога.
Скарынка хлеба і глыток вады.

Я вязень твой, Слова, і твая стража.
Жыву Словам.
Чакаю Слова.
Вітаю Слова.

# ПІШУ

Калі вастру аловак, доўга стаю ў славянскай белі ля адкрытых акон. Нешта ў сэрцы адзываецца шчымлівым болем, светлай журбою, льецца, струменіцца, тхне цеплынёй.

Калі пішу, краем сваім іду. Рукамі кранаю мора каласоў, пялёсткі рамонкаў і макаў, каралі рабін і калін, срэбны іней на галінках сясцёр-бяроз. Чую бароў переразвон, салаўіныя трэлі, бачу кветкавы веснаход або асенняга лісця вырай.

Крыштальна-празрыстая даль… Словы нясуць праменні дабрыні, асвятляюць і мацуюць розум, ускрыляюць дух. У слове адраджаюся, уваскрасаю, увысь падымаюся. Таму не страшныя мне ні зіма, якая марозіць кроў, ні армія зла – яна ў бітвах жыцця адступае перад малітвай.

З Божай дапамогай іду я радасны, натхнёны, нязломны – крок за крокам, ад слова да слова, ад надзеі да надзеі. Па шляху хрысціянскім, беларускім, цяжкім і пачэсным – да піру нябеснага.

# ЛАНДЫШАВАЕ ПОЛЕ

„Ландышавае поле” – гэта назоў аднаго глыбіннага месца ў лясным масіве Барок, што на Бельшчыне ў родным старонні паміж Мокрым, Казламі і Падбеллем. Куточак той чароўны, магічна-райскі!

Між мачтавых, векавых маўклівых соснаў штогод у траўні зацвітае поле ландышаў. З юнацкіх гадоў заўжды я тут, на фэсце вясны.

Іду вольна, ступаю асцярожна, каб не патаптаць зялёныя лісточкі і белыя званочкі. Пад нагамі зоркі бліскучыя, серабрыстыя, іскры-жарынкі праменныя, вочкі любыя… Дзівосны дыван, другое неба! Спыніўшыся, разглядаюся, прыслухоўваюся, слу-хаю…

Стаю ў абдымках Яго Вялікасці Хараства, вечна жывога і жыватворнага. Зрэдчас толькі нешта азавецца шчымлівым болем або светлай журбою.

Я – часцінка цішыні. Пяшчотна звоняць у цішы галоўкі ландышаў. Звоняць ва ўсе званы. Шырока-далёка нясецца іхні спрадвечны гімн жыццю.

Ландышавае поле – уцёкі мае і крэпасць. Тут мае Рым, Крым і Амерыка. Без слоў гавару з сабой і Радзімай, з усім наваколлем. Малюся да неба і зямлі, да белі і зелені, да светлай чысціні. Сэрца поўніцца надзеяй на перамогу дабра і любові. Узносіцца мая чалавечая туга, каб, хоць на хвіліну, дакрануцца да вечнага.

Ландышы – пасланцы нябёсаў. Яны ідуць за мною, след у след. Свецяцца ў кожнай жыццёвай дарозе і ў бездаражы. Ноччу па сыпкім пяску бяссонніцы ўваходзяць у пакой, разліваюцца морам.

Поле ландышаў – адраджальная сіла красы, веснавы твар Зямлі…

Божа мой, ах, як хочацца жыць!

# ЦАРКВА Ў ПАДБЕЛЛІ

Кліча царква... Царква Святога Прарока Ілы ў Падбеллі.

Мілагучны звон расхінае ранішні спакой. Царква за ўзвышшам-гарой, за Белай-ракой, за шаматлівым трысцём. Яна ля празрыстых крыніц, на беразе дабрыні і ў сіняве нябёс.

Храм заве ласкавым шэптам-просьбай матулі, якая памерла на 38 годзе жыцця, ціхай скаргай-жалем прадзеда, які пайшоў на Першую сусветную вайну і няведама калі і дзе загінуў, асіраціўшы траіх малых дзетак. Край ад калыскі дарагі, зялёны, чысты – гэта мой родны кут. З усімі пакаленнямі дзядоў і прадзедаў я разам тут – памятаю, трываю.

З гарачым сэрцам і адкрытай душою расчыняю дзверы царквы... Ах, які праменны бляск! Якое хараство! Святыня ў белі, срэбры-золаце і ў блакіце.

Другое стагоддзе ў Свята-Ільінскай царкве ў Падбеллі палае агонь любові да Бога. Храм наш – веліч шчырай душэўнай прастаты, вольнай ад ганарыстасці і пагарды. Тут знікаюць боль, адчай, трывога. Ён – каўчэг выратавання на ўзбураным акіяне свету. Ён – апора, падмога і крэпасць.

У царкве ўсё імкне ўвысь – да нябеснай чысціні і дасканаласці. Табе мы, грэшныя, пакланяемся і молімся, Божа літасцівы, Божа ўсяўладны, Божа магутны. Творца зямлі і неба, Святы Несмяротны, памілуй нас!

Госпадзі Ісусе Хрысце, з Табой дзелімся шчасцем і горыччу, слязьмі і ўсмешкамі надзеі, багаццем і беднасцю. Сыне Божы, ачысці правіны нашы!

Мы, вернікі, славім Айца, і Сына, і Дух Святы, жыццятворчы, які ад Айца зыходзіць. Найсвяцейшая Тройца, злітуйся над намі.

Маці Прачыстая, спагадлівая, міласэрная, ахіні нас покрывам сваёй бязмежнай дабрыні, абарані ад ворагаў, бачных і нябачных, ад нягод і пакут.

Святы Прарок Ілья, услед за Табой мы хочам ісці дарогай веры, імя Тваё дае нам сілы.

Малітва набожная – хлеб для душы, святло для розуму, ахова ад агню і вады, ратунак ад нашэсцяў і вайны, ад ганьбы, здрады і няволі. Словы яе незвычайныя, цудадзейныя. Малітоўны спеў сугучны няхай вядзе нас у светлую вечнасць – у Царства Нябеснае…

Над краем мілым, дарагім чулліва ўзносіцца царкоўны звон у Падбеллі…

## Змест